# Голас Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць два разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **3.000000** м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр. 250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

**№ 13.** Вільня, Аўторак, 25-га сакавіка 1924 г. **Год I.**


## 1918 $\frac{25}{III}$ 1924.

Для народу, які хоць-бы ў найдалейшай мінуўшчыне меў мамэнты вольнага жыцьця, ды пасьля папаў у няволю, раней ці пазьней прыходзіць часіна, калі ён ня можа ўжо цярпець на сваім карку чужацкага ярма. І такі паняволены народ раней ці пазьней мусіць паўстаць, мусіць імкнуцца да вызваленьня, калі ў ім ня згасла хоць найменшая іскрачка нацыянальнае сьвядомасьці.

Гісторыя апошняга сталецьця з асаблівай яркасьцяй паказала, што імкненьне да нацыянальнага вызваленьня зьяўляецца ня менш магутным рэвалюцыйным фактарам, чым імкненьне да палітычнае і сацыяльнае волі прыгнечаных народных масаў. Гэта пацьвярджае і гісторыя адраджэньня і вызваленьня Беларускага народу. Сацыяльнае прабуджэньне беларускіх працоўных масаў, прабуджэньне ў загнаным, прыгнечаным сярмяжніку *чалавека* павінна было збудзіць у душы яго гарачы пратэст ня толькі проці таго panaжываеда, што жыве з яго цяжкае працы, ня толькі проці царскага чыноўніка, які рабаваў і зьдзекаваўся над ім, як сам хацеў, але і проці таго *чужынца*, што ў гэткай пагардзе меў мову народную, „хамскай“ яе называючы, што аплёвываў усе нацыянальныя адзнакі беларуса, жадаючы гвалтам прышчапіць яму чужую „панскую“ культуру. І калі настаў мамэнт расплаты, калі Беларускі народ разам з другімі народамі старое царскае Расеі парваў путы палітычнага і сацыяльнага рабства, ён выступіў на барацьбу такжа і з няволяй нацыянальнай, жадаючы ўрэшце стацца *поўным гаспадаром на сваей роднай зямлі.*

Апошняе жаданьне задоўга да Вялікае Расейскае Рэвалюцыі жыло ў сэрцах лепшых сыноў Беларускага народу і перажыло цікавую эвалюцыю: ад першых нясьмелых думак аб аўтаноміі Беларусі ў межах Расейскае дзяржавы жаданьне гэтае ў працягу пятнаццацёх гадоў—у меру росту сьвядомасьці беларускіх народных масаў — пeратваралася ў ідэю Расейскае Фэдэрацыі і ўрэшце знайшло для сябе найбольш поўнае, найдалей сягаючае вырашэньне ў абвешчаньні *дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі.*

Ідэя *беларускае дзяржаўнасьці* сталася ідэяй шырокіх народных масаў тады, як гэтыя масы — пасьля сацыяльнае рэвалюцыі ў Расеі—пачулі, што „яны—сіла, яны—права“. І вось 31 сьнежня 1917 году першы Усебеларускі Зьезд у Менску абвяшчае Беларусь вольнай народнай рэспублікай у фэдэрацыйнай еднасьці з Расеяй. А менш, як праз месяц, у адрэзанай ад Менску ваенным фронтам Вільні скліканая тут 25 студня 1918 году Беларуская Канфэрэнцыя Заходняе Беларусі, ня ведаючы аб менскіх падзеях, праклямуе дамаганьне незалежнасьці Беларусі ў фэдэрацыйнай сувязі з Літвой.

Але тагачасныя палітычныя варункі не даюць зьдзейсьніцца гэтым выяўленьням волі Беларускага народу. У Расеі яшчэ лішне сільны дух старога цэнтралізму, што перажыў спарадзіўшы яго царызм. Расея ня хоча йшчэ гаварыць з Беларусяй, як з самастойным краем. Расея йшчэ глядзіць на Беларусь вачыма валадара. Аслабленая імпэрыялістычнай вайной Расея прымушана згадзіцца на Берасьцейскі мір, які рэжа жывое цела нашае Бацькаўшчыны, аддаючы Заходнюю Беларусь у поўнае распараджэньне Нямеччыны. А нямецкі кайзэр у свой чарод рэжа сваім адумам гэту часьціну на кускі і толькі адзін з гэных кускоў далучае да Літвы, баючыся, што апошняя ў лучнасьці з Беларусяй была-бы лішне сільная і магла-бы паказаць зубы нямецкім імпэрыялістам.

І Беларускі народ, бачучы, што яму не падасьць рукі помачы ні тагачасная Расея, ні маленечкая, запужаная немцамі Літва, бачучы, што на ягоную зямлю працягіваюцца прагавіта рукі адраджонае Польшчы, робіць рашучы і гэраічны крок: вустамі Рады Рэспублікі ў Менску 25 сакавіка 1918 году ён абвяшчае Беларусь *ні ад каго незалежнай, самастойнай і непадзельнай народнай дзяржавай*, разьлічаючы толькі на свае ўласныя сілы, гатовы сваімі рукамі зьдзейсьніць сваё жаданьне: стацца гаспадаром свае зямлі.

Праўда, тым, хто абвяшчаў гэта, ня было суджана правясьці акт 25 сакавіка ў жыцьцё. У канцы 1918 году Менск займаюць расейскія войскі. Але цяпер гэтыя войскі для беларусаў ужо ня страшныя: Сацыялістычная Радавая Расейская Рэспубліка здалела зламаць і зьнішчыць у сваім арганізьме ліхую спадчыну царызму, і чырвоныя войскі нясуць па Беларусь не старую няволю, а помач у зьдзейсьненьні яе дзяржаўнага ідэалу. Радавая ўлада 1 студня 1919 году ў тым-жа Менску абвяшчае *Беларускую Сацыялістычную Радавую Рэспубліку.*

*Ідэя беларускае дзяржаўнасьці перамагла.* Беларуская дзяржава будуецца, крок за крокам зьбіраючы тыя часьціны нашае Бацькаўшчыны, на якія яна была парэзана. На нашых вачох адбываецца зьдзейсьненьне акту 25 сакавіка: Беларусь уваходзіць у склад Саюзу Сацыялістычных Радавых Рэспублік, як запраўды незалежная дзяржава, будаваная рукамі *беларускага селяніна і работніка.*

Вось чаму мы і сьвяткуем сягоньня шостыя угодкі абвешчаньня незалежнасьці Берусі ў дзень 25 сакавіка 1918 году: гэта было найпаўнейшае, найдалей сягаючае выяўленьне нашых дзяржаўных імкненьняў, гэта быў *акт веры ў сілу і творчую моц беларускага працоўнага народу*, — веры, якая ў поўнай меры *апраўдалася.*

## Як-бы хто набаяу.

I.

І пашла, і пашла—
Як бы хто набаяў—
Ад сяла да сяла
Гутарка такая:

Беларусь на куце
Ў хаце сваёй села,—
Чарка мёду ў руцэ,
Пазірае сьмела.

Сядзіць важна, сама
Сабе гаспадыня,
І прыбрана яна —
Ніхто не закіне:

На галоўцы вянок
З сініх васілёчкаў,
А чырвон паясок
Стан абвіў дзявочы.

Так сядзіць і глядзіць,
Ці усё, як трэба, —
Трэба ўсім дагадзіць
І соляй і хлебам.

А з тутэйшых музык
Гучная капэля,
Хто ў дуду, хто пад смык,
Граюць ёй вясельле.

Так бубняць і гудзяць
На гэтай бяседзе,
А суседзі глядзяць,
Дзівяцца суседзі:

— То-ж яна з мужыкоў,
А як вышла ў людзі!
Як міне больш гадкоў,
Што-ж тады ўжо будзе?!

II.

Зручна, гучна грай нам,
грайка,
Ад усіх рэж струн!
Ня сьвісьціць ужо нагайка,
Ня гудзіць бізун.

Селі макам усе тыя,
Што нас—вольны люд,
Не шкадуючы памыяў
Аблівалі тут.

Барын веку дажывае,
Выгнаны Масквой.
. . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . .

А мы самі, сабе самі
Ўжо гаспадары,
Малатамі і сярпамі
Звонім да зары.

Нібы пчолы ў соты з мёдам
Да свайго вульля,
Мы вяртаемся да дому,
Як адна сям'я.

На сход сходзімся і лічым,
Ці усе прышлі, —
Хто спазніўся — прысьці
клічам
Да сваёй зямлі.

— Вы, хтось кажа асьцярожна, —
Ня ўсе ў грамадзе...
— Гэй, дарогу, . . . . .
Беларусь ідзе.

Грай-жа, грай нам гулка,
грайка,
Ад усіх рэж струн!
Ня сьвісьціць ужо нагайка,
Ня гудзіць бізун.

**Янка Купала.**

## Рэалізацыя ідэі незалежнасьці.

Наш беларускі народ бадай выключна складаецца з сялян і работнікаў. Здраджаны сваей буржуазіяй, якая прыняла „вышэйшую“ чужацкую культуру і выраклася сваей нацыянальнасьці, беларускі народ адначасна павінен быў вясьці барацьбу як за нацыянальнае, так і клясовае вызваленьне. Уціск сацыяльны і нацыянальны йшоў з аднэй і тэй самай крыніцы і дзеля гэтага і барацьба за нацыянальнае вызваленьне была адначасна і барацьбою за сацыяльнае і эканамічнае вызваленьне.

Зусім натуральна, што рэалізацыя ідэі дзяржаўнай незалежнасьці беларускага народу магла адбыцца толькі тады, калі-б улада знаходзілася ў руках сялян і работнікаў. Доказам гэтага зьяўляецца сучаснае дзяржаўнае будаўніцтва Беларускай Радавай Рэспублікі.

Ясна, што пры буржуазна-капіталістычнай уладзе Беларусь ні ў якім выпадку немагла-б збудаваць сваей дзяржаўнасьці, бо буржуазная кляса на абшарах Беларусі зьяўляецца ня толькі клясовым ворагам працоўных масаў беларускага народу, але і нацыянальным і яна ў будаўніцтве Беларускай дзяржавы ня бачыла для сябе ніякіх рэальных карысьцяў. Аб гэтым яскрава сьведчаць адносіны да беларускага руху, як усіх расейскіх, так і польскіх буржуазных партыяў і іх урадаў.

Таксама наш народ ня мог спадзявацца на дапамогу ў справе будовы сваей дзяржавы з боку буржуазных урадаў тых ці іншых дзяржаў, якія мелі ўплыў на вырашэньне лёсу паваеннай Эўропы. Ні Нямеччына, ні Антанта ня мелі ніякай ахвоты тварыць беларускую дзяржаву; у лепшым выпадку яны маглі-б з беларускіх абшараў зрабіць сваю калёнію, якая-б была шырокім полем для эксплёатацыі і поўнага эканамічнага паняволеньня чужаземным капіталам. І ў гэтым выпадку Беларусь ня можа пазайздросьціць лёсу тых невялічкіх дзяржаў, якія ўтварыліся ў выніку сусьветнай вайны і знаходзяцца ў поўнай залежнасьці ад ласкі ці неласкі таго ці іншага магутнага апякуна.

Праклямаваньне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25-га сакавіка 1918 году бязумоўна мае вялікае значэньне, як пэўны этап у гісторыі разьвіцьця беларускай дзяржаўнай думкі. Гэты акт у тагачасных абставінах ня мог даць адразу рэальных вынікаў. Стаўка на так модны ў той час дэмакратызм і самаазначэньне народаў, якімі прыкрываліся запраўдныя мэты сусьветнай вайны, не магла быць выйграна. Беларусь, стаўшы арэнай барацьбы двух змагаўшыхся сьветапаглядаў—старога капіталістычнага імпэрыялізму і нараджаючагася ў муках рэвалюцыі новага ладу — павіна была стаць выразна на тую ці іншую старану. Сярэдзіна ў духу нявыразнага, аджываючага свой век дэмакратызму не магла задаволіць ні аднэй ні другой стараны. У гэтым галоўная прычына няўдачы акту 25-га сакавіка.

Рыскі мір—вынік тагачасных суадносінаў сілаў—падзяліў Беларусь на дзьве часткі, прынцыпова прызнаючы за Беларускім народам права на незалежнае дзяржаўнае жыцьцё. І вось, у той час, калі тут на захадзе, шмат хто не прызнае за намі нават права называцца нацыяй, там, на ўсходзе пачынаецца запраўдная рэалізацыя ідэі аб дзяржаўным будаўніцтве Беларусі. У цяжкіх абставінах паваеннага эканамічнага зруйнаваньня беларускія працоўныя масы вядуць гэтую працу, якая ўрэшце дала ў выніках стварэньне Беларускай Радавай Рэспублікі, ахопліваючай бадай усе ўсходнія беларускія землі.

І гэта адбылося не шляхам вайны, не шляхам вырашэньня аружжам спрэчных пытаньняў, а шляхам узаемнага братэрскага паразуменьня працоўных масаў і іх прадстаўнікоў. Бо працоўны народ ніколі не зацікаўлены ў уціску і вызыску другога працоўнага народу. Клясовае вызваленьне нясе з сабою і нацыянальнае вызваленьне. Народы, вызваліўшыяся ад паняволеньня капіталу, змогуць наладзіць згоднае сужыцьцё ў братэрскім саюзе.

І мы шчыра верым, што і польскія працоўныя масы знойдуць супольную мову, каб паразумецца з беларускім работнікам і селянінам. Наступіць час, калі беларускі народ так-жа рука аб руку пойдзе з польскім народам, як ён ідзе цяпер з велікарасейскім і украінскім.

Застаецца толькі пажадаць, каб гэты час хутчэй настаў.

**Нумельган.**

